пад увагу яе інтэрэсы. Трэба дайсьці таго, каб цэны за малые кватэры былі ня толькі абсолютна, але і *пропорцыональна* меншые, чым за вялікіе господы.

Калі-б гэтаго ўдалося дайсьці, дык мы би значна падблізыліся да развязкі ў нас кватэрніцкай справы. Гэта—побоч з упадкам традыцыйных пераездоў на сьв. Юр'я і на сьв. Міхала, быў бы ўжо другі крок на дарозі да упарадкаваньня гэтай важнай справы.

Але і гэта—ня ўсё. Есць яшчэ трэйці біч, ад катораго заўсёды церпяць кватэранты: гэта—тые кантракты, каторые даюць у нас усе правы гаспадару дому, а кватэранта аддаюць пад яго неаграніченую ўласць. З гэтымі кантрактамі трэба зрабіць нейкі лад: трэба апрацаваць такі нормальны кантракт, каторы даваў-бы і дамаўласьніку і кватэранту роўные правы, даваў бы ім адзінакавую магчымасць бараніць свае інтэрэсы і даходзіць сваіх правоў. І вось нам здаецца, што пры здачы у арэнду пакінутых гаспадарамі дамоў было-б найлягчэй правясьці ў жыцьцё новы нормальны кантракт, роўна справедлівы для абедзьвех старон. Гэту справу трэбало-б паставіць наперадзі, бо яна мае ня меншую вагу, чым справа упарадкаваньня цэн, — асабліва на будучый час.

*Кватэрант.*

## У Вільні і ваколіцах.

× **Спатканьне Новаго Году.** Віленскіе беларусы устроілі сёлета дужа сымпатычную сустрэчу Новаго Году ў Беларускім Клюбе.

Ужо каля 9 гадзіны пачалі збірацца запрошэные госьці—ў тым ліку чысьленая громада літвіноў, ды паадзінокіе прэдстаўнікі палякоў і украінцоў. Пад кірункам п. Ф. Олехновіча пачаўся кабарэт: беларускіе і літоўскіе артысты і артысткі, ды іншые госьці, хто як мог і хацеў, выступалі са сьпевамі, дэклямаціямі і т. п. ў беларускай, літоўскай, польскай і украінскай мовах. Гарачы прыём спаткалі выступленьня п. Бороўскаго, пеяўшаго па-беларуску і па-украінску. Сымпатычные былі і літоўскіе песьні.

Каля поўначы—перад самай 12 гадзінай—беларусы і літвіны абменяліся гарачымі прыветнымі словамі, жычучы сабе ўзаемна лепшай будучыны ў тым новым годзе і жадаючы, каб абодва братніе народы жылі і надалей супольным згодным і вольным жыцьцём. Калі гадзіннік пачаў біць 12, сьвет у салі затух, і сабраўшыеся адсьпевалі беларускі і літоўскі нацыональные гымны.

Пасьля пачаліся ахвочые танцы, аткрытые беларускай лявоніхай і літоўскай суктіняй. Вясёлая забава трывала ажно да раніцы.

Сымпатычны вечар пакінуў дужа добрае ўражэньне на ўсіх госьцях. Беларускае і літоўскае грамадзянство ешчэ раз выявіло тую еднасць, якая злучае абодва братніе народы на грунці палітычным. І тым болей трэба вітаць еднаньне беларусоў і літвіноў у грамадзкім жыцьці.

× **Беларускі тэатр.** Другі спэктакль „На Антокалі" сабраў, як і трэбало спадзевацца, даволі многа публікі. П'еса і гэтым разам спаткала заслужэны гарачы прыём. Ігралі добра, як і той раз, ды іншые драбніцы лепей былі наладжэны.

Маладая беларуская драматычная дружына разам са сваім рэжысэрам—гэта ўжо сур'ёзная сіла, каторая паказала сваю цэну ў радзі апошніх спэктаклёў. Пажадаем жэ ей далейшаго развіцьця і удач!

× **Літоўскі вечар** У нядзелю 7 студня у салі Работніцкаго Клюбу, Вароньня 5, на карысць літоўскай работніцкай страўні ладзіцца літоўскі вечар с фантовай лётэрыей. Будзе прэдстаўлена К. Пуйды драма ў 3-х актах «Mirga». Апрача таго выступаюць два літоўскіе хоры, каторые выпаўняць шмат літоўскіх нацыональных песень. Пасьля канца праграмы будуць скокі і забавы.

Білеты ад 15 фэн. да 3 марак можна купляць у літоўскай коопэратыве, сьв. Янская вул. 23, і у літоўскай кнігарні, Домініканская 13.

Пачатак а 4 гадз.

× **Запіс на вучыцельскіе курсы у Сьвіслочы.** Запісывацца на новы трохмесячны курс у Сьвіслочскай Беларускай Вучыцельскай Сэмінарыі, каторы пачнецца 1 лютаго, трэба ў Вільні **не пазьней 10 студня** у Stadtschulrata, Домініканская 3, пакой 55.

Варункі навукі: за вучэньне — 5 м. у месяц, за поўнае утрыманьне—36 м., разам 41 м. ў месяц, а за ўвесь курс—123 м.

Плаціць можна намесячна—напярод.

Хто хацеў-бы ехаць у Сьвіслоч з вёскі, можэ заявіць аб гэтым у сваім Крэйсамце, дзе яму дадуць усе патрэбные ведамасьці.

× **У Саюзі Кратэрантоў.** На апошнім заседаньні ураду саюза пастаноўлено організаваць пры урадзе спэцыяльную камісію дзеля кватэрніцкай справы. Камісія гэта мае право кооптації людзей, каторые маглі-бы быць карыснымі дзеля развязкі востраго кватэрніцкаго крызісу ў Вільні, вызванаго вайной.

Урад саюза упоўнамочыў некольгі асоб дзеля супольнаго з апекунамі над пакінутымі дамамі агляду і ацэнкі пустых кватэр у іх. Дэлегаты саюза пачнуць сваю работу гэтымі днямі.

× **Пасажырскі рух чыгункай.** Ад 1 студня 1917 году цывільные асобы могуць карыстаць са скорых паездоў і ездзіць як у 2 і 1 клясе, так і ў спальных вагонах. Хто хочэ карыстаць з гэтаго права, павінен прэдставіць «Erlaubsungschein» не старэйшы за 3 дні.

× **Скорая помач** у 1916 году дадзена у 3650 прыпадках. С карэткі карысталі ў 1730 здарэньнях.

× **Курс рубля:** офіцыальны — 1 м. 90 фэн. за рубель; у банках пры прадажы — 2 м. 19½ ф., пры куплі—2 м. 23½ ф.

Пазычковая каса бярэ 6%.

## Апавешчэньне

П. Глаўнакамандуючый армією за той месяц налажыў у межах этапу на ніжэйпісаные грамады гэткую контрыбуцію:

1) на грамаду Шуданцы, Оліцкаго пав., — за тое, што 19. XI 16 у Шуданцах згарэло гумно з запасам ураджаю, і пажар узняўся ад недагляду аднаго жыхара, — 200 м.

2) на грамады
а) Балсупе 1.800 м.
б) Гейшторышкі (Вілковіскаго п.) 1.000 м.
в) Антупе 400 м.
г) Мэркшышкі 300 м.
за тое, што ў гэтых грамадах быў палітычны рух, і пяцера членоў іх напалі на нямецкіх ваенных, каторым было загадано зрабіць сьледзтво, ды ранілі іх на сьмерць.

3) на грамаду Раўпішкі (Маляцкаго пав.), ў каторай згарэло гумно з запасам ураджаю, і пажар тлумачыцца недаглядам аднаго жыхара, катораго знайсьці не ўдалося, — 200 м.

4) на грамаду Авіжанцы (Сэйненскаго пав.), за тое, што члены грамады, вядомай сваей неслухмянасьцю, 27. X. 16, калі ў іх спаганялі падаткі, супраціввіліся, —1.000 м.

5) на грамаду Густайнішкі (Владыславоўск. пав.), ў каторай 2. XII, 16 згарэў хлеў з запасам ураджаю, і пажар тлумачыцца недаглядам жыхароў, 200 м.

6) на грамаду Тракішкі (Мар'ямпольскаго пав.), ў каторай 8. XI, 16 згарэло 250 цэнтнэроў канюшыны, зложэнай на лузі, і пажар узняўся ад неасьцерожнасьці аднаго жыхара, — 200 м.

7) на грамаду Вандынь'е (Мар'ямпольск. пав.), ў каторай ў начы з 23 на 24. XI. 16 згарэло гумно з ільном, і пажар, трэба думаць, узняўся ад неасьцерожнасьці з агнём, — 50 м.

8) на грамаду Прэляі (Мэрэчскаго пав.), дзе 23. XI. 16 згарэло гумно з вялікім запасам ураджаю, і пажар, можна думаць, узняўся ад падпалу, ды грамада не парупілася дзеля недапушчэньня прычыніўшаго вялікіе страты пажару, — 2.300.

9) на грамаду Масты (сельскі павет Вільна), каторая не данесла ўраз-жэ нямецкай уласьці аб прыбыўшых туды расейцах, уцёкшых с палону, ды нават хавала многа ваенна-палонных, даючы ім прыпынак і страву, — 5.000 м.

10) на грамаду Шэкеды (Владыславоўскаго пав.), дзе ў начы з 12 на 13. XII. 16 згарэло гумно з ільном, і пажар тлумачыцца недаглядам гаспадара. — 200 м.

11) на грамаду Блувішкі (Владыславоўскаго пав.), дзе 16. XII. 16 згарэлі запасы ураджаю, і пажар

## На паліцейскай варце.

Апаведаньне **Р. Кіплінга.**

— Пасланцом прашу прыняці мяне, калі сэрцэ яго сьветласьці пазволіць на такую вялікую ласку. І за шэсць рупій[1]). Так, сагіб,[2]) бо у мяне трое маленькіх дзетак, жывоцікі каторых заўсёды парожніе, а хлеба даюць цяпер толькі сорак фунтоў за рупію. Я буду такім разумным пасланцом, што ты цэлы доўгі дзянёк будзеш здаволены з мяне і ў канцы году дасі мне чалму[3]). Я ведаю ўсе дарогі, станціі і шмат чаго іншаго. Ага, сагіб! Я разумны. Прыймі мяне к сабе на службу. Раней я служыў у паліціі. Ліхая слава? Нейначэй нейкі вораг мой нагаварыў на мяне. Ніколі ня быў я нягоднікам. Я чэлавек шчыры, і ўсе мае словы—шчырая праўда. Гэта ведалі, калі я служыў у паліціі. Яны казалі: „Аўцал Хан кажэ праўду". Я пахтан[4]) з Дэлі, сагіб, а ўсе дэлійскіе пахтаны добрые людзі... Ты бываў у Дэлі?

Эгэ, гэта праўда, што паміж дэлійскіх пахтаноў багата нягоднікоў. Які сагіб мудры! Нішто ня выслізьне яму з вачэй. Ен зробіць мяне сваім пасланцом, я буду сьцерагчы ўсе яго сэкрэты і ня буду нікому казаць аб іх.

Не, сагіб, Бог мне сьведка, што ў мяне німа нічога благога ў думках. Я даўно хацеў служыць пад рукой праўдзіваго сагіба—справедліваго сагіба. Багата маладых сагібоў падобны да чарцей, спушчэных з ланцуга. З гэтымі сагібамі не хацеўбы я служыць—не, хоць-бы жывоцікі ўсіх маіх дзетак плакалі за хлебам.

Чаму я не астаўся служыць у паліціі? Я скажу шчырую праўду. Беда звалілася на тхану[5]) — на Рат Бакша, хавілдара, і Маула Бакша, і Жутгут Рама, і Бэгіма Сінгха, і Суруж Була. Рум Бакш цяпер у вастрозе да часу—так, як Маула Бакш.

Гэта было на тхані ў Хоўлі, на шляху, што вядзе да Гокраль Сітаруну, дзе багата дайкотоў[6]). Мы былі ўсе адважные людзі—Рустумі[7]). Дзеля таго нас і назначылі на тую тхану, што была ў васьмі мілях ад другой тханы. Увесь дзень і ўсю ночку мы вартавалі дайкотоў. Чаму сагіб сьмяецца? Не, я гавару як на споведзі. Дайкоты былі вельмі разумные, і, зразумеўшы гэта, мы і не непакоіліся дармо. Гэта было ў гарачые дні. Што можэ зрабіць чэлавек у гарачые дні? Нават сагіб, што такі дужы—нават ён, няўжож бодзер у гэты час? Мы зрабілі з дайкотамі угоду, каб мець спакой. Гэта была справа хавілдара, што быў тоўсты. Хо! хо! сагіб, ён цяпер схудзее ў вастрозі. Хавілдар сказаў: „Не турбуйце нас, і мы ня будзем вас турбаваць. А перад канцом жніва прышліце да нас чэлавека, якога-б мы маглі аддаць пад суд,—чэлавека прыдурнаватаго, якога-б ніхто не адважыўся засудзіць на кару. Так мы зберажом сваю годнасць" Дайкоты згодзіліся на гэту умову, і мы былі зусім спакойны на тхані і маглі есьці дыні і ціха сядзець цэлые дні на сваіх ложках. Салодкіе, як цукровы трасьнік, дыні ў Хоўлі.

Таго часу памочнікам камісара—Стэнт сагібам у тэй ваколіцы—быў чэлавек, катораго звалі Юнкум сагіб. Ага! Ен быў суровы—суровы, як сам сагіб, які напэўне такі возьме мяне пад засень сваей апекі. Багата вачэй было у Юнкум сагіба, і ён шпарка перэсуваўся па ўсей ваколіцы. Людзі звалі яго львом з Гокраль-Сітарука, бо ён прыежджаў, куды яму трэба, без папярэджэньня, рабіў напад і да захаду сонца ўсьпеваў нарабіць клопатоў усей паліціі за трыдцаць міль адтуль. Ніхто ня ведаў, калі прыедзе і калі выедзе Юнкум сагіб. У яго не было пастаяннаго побыту, і калі ягоны конь стамляўся, ён ездзіў на чортавай каламажцы. Я ня ведаю, як яна завецца, але сагіб сядзеў пасярод трох срэбных калёс, што коцяцца бяз шуму, а ён круціць іх сваімі вагамі і перэбірае імі, як выгадаваны на бобе жэрабец,—вось як. Цень каршуновы над палямі ня можэ быць цішэйшым, чым чортава каляска Юнкум Сагіба. Яна з'яўлялася тут, яна з'яўлялася там, яна зьнікала, а данос пасылаўся, і выходзіло ліха. Спытай тэхсілдара з Рохісстры, як раскрылася крадзежа курыцы, сагіб.

(Далей будзе).

[1]) манэта індуская [2]) пан [3]) шапку [4]) канавод

[5]) Тхана — мейсцэ паліцейскай варты. [6]) Дайкот — разбойнік на вялікай дарозэ. [7]) добрародны.

